

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 520 ТРАВЕНЬ 2006
Год выданьня 56

# Мітынг і дэманстрацыя ў Нью Ёрку

У Нью Ёрку 26-га красавіка адбыліся акцыі салідарнасьці з пацярпелымі ад Чарнобылю і з дэмакратычнымі сіламі Беларусі. Дэманстрацыя, ладжаная Нью Ёрскім аддзелам БАЗА, сабрала каля 70 чалавек, пераважна моладзі, зь Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Бостану і Філядэльфіі. Напачатку адбыўся мітынг каля штаб-кватэры ААН. Перад удзельнікамі выступілі старшыня аддзелу БАЗА Віталь Зайка, Старшыня БНФ Зянон Пазьняк, і Старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелойць.




У прамовах было адзначана, што Беларусь мае сёньня дзьве праблемы — дыктатуру Лукашэнкі й наступствы Чарнобыля. Прычым дыктатура робіць вырашэньне праблемы рэабілітацыі пацярпелых ад радыяцыі раёнаў і насельніцтва немагчымым, і дзеля гэтага абедзьве праблемы трэба вырашаць разам.

Рэжым Лукашэнкі ўсяляк прыніжае маштабы бяды, імкнецца навязаць думку, што праблема Чарнобылю вырашаная, тэрыторыі неабгрунтавана пераводзяцца ў катэгорыю "чыстых", на забруджаных радыяцыяй землях вырошчваецца сельгаспрадукцыя, у тым ліку на вываз у іншыя раёны. Жыхары пацярпелых раёнаў пазбаўляюцца належных ільготаў, інфраструктура "зоны" прыходзіць у заняпад. Рэжым перашкаджае атрымліваць гуманітарную дапамогу з-за мяжы і пасылаць туды дзяцей на аздараўленьне.

Студэнтаў прымусова разьмяркоўваюць на забруджаныя тэрыторыі на працу. Рэжым парушае ўсе правы і свабоды грамадзянаў і заціскае кожную праяву свабоднага волевыяўленьня. Таму беларусы Амэрыкі выйшлі на акцыю салідарнасьці з братамі й сёстрамі на Бацькаўшчыне.

Мінакам удзельнікі дэманстрацыі раздаваліся інфармацыйныя ўлёткі аб падзеі. Зь месца акцыі вялі рэпартаж карэспандэнты ***Associated Press*** і расейскай тэлекампаніі ***RTVI***.

Удзельнікі прайшлі маршам да консуляту Беларусі ў Нью Ёрку, дзе адбыўся працяг мітынгу, а потым перайшлі да прадстаўніцтва Беларусі ў ААН. Падчас шэсьця і акцыі гучэлі лёзунгі "Жыве Беларусь!", "Верым! Можам! Пераможам!", "Далоў Лукашэнку!" ды інш. Беларуская моладзь выйшла з плякатамі, лунали бел-чырвона-белыя сьцягі. Прысутныя сьпявалі таксама беларускія нацыянальны і рэлігійны гімны.

***Зьміцер ПАРЭЦКІ***

# Зачыняюць "Нашу Ніву"

Незалежная газета "Наша Ніва" атрымала ліст ад Менскага гарвыканкаму, у якім гаворыцца, што "разьмяшчэньне газэты "Наша Ніва" ў горадзе Менску зьяўляецца немэтазгодным".

Матывацыя: "выяўлена, што 22 сакавіка галоўны рэдактар газэты «Наша Ніва» быў пакараны адміністратыўным арыштам тэрмінам на 10 сутак". Варта нагадаць, што рэдактара затрымалі 21 сакавіка ў часе пасьлявыбарчых пратэстаў на выхадзе з гарадзкога аўтобусу на Кастрычніцкай плошчы, а пасьля асуджаны па абвінавачваньні ў "нецэнзурнай лаянцы". Улады спрабуюць самкнуць апошняе зьвяно ў ланцужку здушэньня "Нашай Нівы".

З 1 студзеня газэту пад рознымі прэтэкстамі спынілі распаўсюджваць манапалісты "Белсаюздрук", "Менгарсаюздрук", "Менаблсаюздрук", а "Белпошта" выключыла газэты з падпіснога каталёгу. 10 красавіка пасьля доўгае зацяжкі Міністэрства сувязі адмовіла "Нашай Ніве" ў просьбе на атрыманьне ліцэнзіі на самастойнае правядзеньне падпіскі. Тым самым днём датуецца і ліст зь Менскага гарвыканкаму за подпісам намесьніка старшыні М. Ціцянкова, падрыхтаваны ідэалягічным аддзелам гарвыканкаму. Ён азначае забарону на існаваньне прадпрыемства "Наша Ніва".

Зварот рэдакцыі да чытачоў:

"Нашу Ніву" цынічна зачыняюць напярэдадні яе 100-годзьдзя. У 1915 годзе першая "НН" зачынілася пасьля акупацыі Вільні кайзэраўскімі войскамі. У 2006 годзе тое самае ажыцьцяўляе лукашэнкаўская адміністрацыя.

Раней улады імкнуліся захоўваць бачнасьць юрыдычнай працэдуры. Газэты спынялі ці перапынялі існаваньне па рашэньнях судоў і Міністэрства інфармацыі. Цяпер досыць простага рашэньня "ідэалягічнага аддзелу". Зь юрыдычнага пункту гледжаньня гэта абсурд. Закон аб друку не прадугледжвае ніякіх дазволаў на разьмяшчэньне газэты ні ад якіх ідэалягічных аддзелаў. І тым больш дзейнасьць прадпрыемства ніякня можа залежаць ад адміністрацыйнага пакараньня яго кіраўніка.

"Наша Ніва" нідзе не парушала закону. Паказальна,што за апошнія чатыры гады газэта ня мела нават папярэджаньняў ад Міністэрства інфармацыі.

Зачыняюць першую беларускую газэту, знак беларускае самабытнасьці.

Зачыняюць апошнюю незалежную газэту, якая выходзіла цалкам на беларускай мове.

Замах на "Нашу Ніву" - сымбалічны пачатак трэцяга тэрміну Аляксандра Лукашэнкі.

Зачынены апошні беларускамоўны ліцэй. Беларускамоўным рок-гуртам забаронены доступ да эфіру. Распачалі працэдуру ліквідацыі Саюзу пісьменьнікаў. Забароненыя дзясяткі газэтаў, забаронена ствараць прыватнае радыё і ТВ на беларускай мове.

Вынішчэньне ўсіх культурных альтэрнатываў узьведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі, грамадзянам навязваецца аднавымерная савецкая ідэнтычнасьць. Гаворка сёньня ідзе ўжо не пра ўратаваньне адной "Нашай Нівы", ці незалежнай прэсы. Мусім ратаваць беларускую культурную ідэнтычнасьць як такую.

Не павінна ў Эўропе XXI ст. зьнікаць векавая культурная традыцыя цэлага народу.

У такой сытуацыі просім Міністэрства культуры Летувы хадайнічаць перад ЮНЭСКА пра ўнясеньне газэты "Наша Ніва" ў "Сьпіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва". Літва мае маральнае права на гэта, бо "Наша Ніва" ў 1906-1915, 1991-1996 г.г. выдавалася ў Вільні. 100-годзьдзе газэты, якая вытварыла беларускую літаратурную мову,беларускую клясычную літаратуру, беларускую дзяржаўніцкую ідэю - добрая для таго нагода. Мы просім урады іншых краінаў, міжнародныя і недзяржаўныя інстытуцыі, што маюць такое права, падтрымаць гэтае хадайніцтва перад ЮНЭСКА. Гэты сымбалічны крок - можа быць, апошняе, што сьвет можа зрабіць для беларускай прэсы.

Зьвяртаем таксама да сусьветнай супольнасьці просьбу пра неадкладнае ўзмацненьне падтрымкі ўсіх незалежных беларускіх СМІ, якія існуюць.

Зьвяртаемся да чытачоў з просьбай пра вытрымку і аптымізм.

Працэс абскарджваньня і іншыя працэдуры могуць доўжыцца ад некалькіх месяцаў да некалькіх гадоў. Нягледзячы на такі падвешаны стан, газэта будзе выходзіць у цяперашнім фармаце, дакуль існуе такая магчымасьць. Спрагназаваць, як доўга яшчэ гэта будзе, немагчыма. Напрыклад, мы ня ведаем, ці будзе друкарня працягваць друкаваць газэту. Пасьля будзе нешта іншае.

Найперш, Інтэрнэт. Нават ліквідацыя прадпрыемства "Наша Ніва" не ліквідуе інтэрнэт-сайту газэты.

Для захаваньня нацыянальнай культурнай традыцыі важна захаваць газэту на паперы.

Раз у Беларусі выхад "Нашай Нівы" "немэтазгодны", лягічна было-б разгледзець пытаньне аб пераносе выданьня за мяжу. Аднак пры такіх варыянтах ўзьнікаюць складаныя юрыдычныя і фінансавыя калізіі. "Наша Ніва" ў сытуацыі забароны на распаўсюд выдаецца пераважна за кошт ахвяраваньняў ад прыватных асобаў. Мы атрымалі іх каля 4000 ад пачатку году, з розных куткоў Беларусі. Між тым пры ліквідацыі прадпрыемства, нават пасьля рэгістрацыі газэты "Наша Ніва" за мяжой няма простага шляху пераказу ахвяраваньняў на выхад газэты. Пакуль газэта выходзіць у звычайным парадку, калі ласка, працягвайце пераказваць ахвяраваньні - хіба, меншымі порцыямі. Пасьля будзем шукаць выйсьце па сытуацыі.

Варта нагадаць, што нават пры ліквідацыі прадпрыемства грошы з рахунку газэты не губляюцца, а выкарыстоўваюцца на статутныя мэты.

Нашу Ніву" зачыняюць, але "Наша Ніва" мусіць захавацца. Як выданьне, чытанае тысячамі людзей, як нацыянальны сымбаль".

# Угодкі Чарнобыля ў ААН

Дваццатыя ўгодкі чарнобыльскае катастрофы былі адзначаны ў ААН 28 красавіка сёлета шэрагам мерапрыемстваў: адмысловай сэсіяй Генэральнай Асамблеі, фотавыставай ды паказам беларускага фільму "Чарнобыльскі крыж".

Двухгадзінная сэсія ГА заслухала больш як 20 прамоўцаў, прадстаўнікоў розных краінаў і групаў дзяржаваў. Першым прамаўляў (паводле альфабэту трох пацярпелых краінаў – Беларусі, Расеі й Украіны) кіраўнік беларускай місіі пры ААН сп. Андрэй Дапкюнас. Усе прамоўцы ў адзін голас прызналі, што чарнобыльская аварыя нанесла вялікія страты, і што патрэбны далейшыя намаганьні, каб вывучыць ды перадолець наступствы чарнобыльскай радыяцыі.

Пасьля сэсіі дыпляматы й запрошаныя госьці агледзелі выставку фатаграфіяў, на якіх задакумэнтаваны зьнішчальныя вынікі Чарнобыля. Выставку арганізавала ў супрацоўніцтве зь беларускай місіяй міжнародная дабрачынная арганізацыя Мандана (Mondano), адным з актывістаў якой зьяўляецца малады беларус сп. Андрэй Краўчанка. Выстаўка, дарэчы, была паказная напярэдадні таксама ў Вашынгтоне ў адным з кангрэсавых будынкаў.

Увечары ў невялікім тэатры, што становіць частку бібліятэкі імя Даг Гамэршэльда, адбыўся паказ новага

***Заканчэньне на бач. 8***

# Паніхіда ў Адэляйдзе

Украінская грамада (Association of Ukrainians in SA, Inc.) ў штаце Паўдн. Аўстраліі арганізавала ў гадавіну Чарнобыльскай катастрофы паніхіду ў саборы Сьвятога Францішка, які знаходзіцца ў цэнтры Адэляйды ля сквера Вікторыя.

У саборы, на невялікім ўзвышэньні, стаялі два сьцягі: беларускі і украінскі.

Спачатку адбылася Богаслужба, якую вёў на ўкраінскай мове настаяцель УАПЦ у Адэлайдзе Пётар Касацкі. Ля яго сталі настаяцелі праваслаўных беларускіх і ўкраінскіх храмаў у Адэлайдзе, уключаючы й сьвятароў грэка-каталікоў.

Беларускую грамаду прадстаўлялі сябры рэлігійнага і грамадзкага камітэтаў, але пераважную большыню прысутных у саборы складалі украінцаў.



Пасьля паніхіды спачувальнае слова сказаў прадстаўнік ад украінскай грамады, які нагадаў пра прычыны й наступствы катастрофы 20-гадовай даўніны.

Скончыў паніхіду архіяпіскап Англіканскай Царквы, які некалькі гадоў таму назад езьдзіў ва Украіну і на свае вочы бачыў трагедыю. Архіяпіскап памаліўся за тых, хто загінуў, благаславіў усіх прысутных, пажадаў ім далейшай плённай працы ды добрага жыцьця.

*Віктар КАВАЛЕЎСКІ*

# Падзеі ў Монтрэалі

Прэзэнтацыя фільму "Дзеці Чарнобыля" адбылася 18 красавіка, а 24-га ён быў паказаны па тэлебачаньню кампаніяй CBC. Фільм распавёў пра дзьве канадыйскія сям'і з паўночнага Антарыё, якія калісьці прымалі беларускіх дзетак у рамках праграмы Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі (закладзенага ў 1989 годзе групаю беларусаў на чале з Івонкай Сурвілла), і якіх прадусары фільму папрасілі ў студзені сёлета адведаць зь імі тых самых дзетак, цяпер ужо маладых жанчын і мужчын, у Беларусі. Фільм быў зроблены з сапраўднай любоўю, пачуцьцём сымпатыі й цяплынёй. Сем'і, якія езьдзілі ў Беларусь, вярнуліся з намерам ізноў далучыцца да тых, хто дае магчымасьць беларускім дзеткам прыехаць у Канаду на адпачынак падчас летніх канікулаў. Такі-ж намер выказалі шматлікія гледачы.

Адбылася выстава здымкаў чэскага фатографа, прысьвечаных Чарнобылю.

А 25-га, 26-га і 27-га красавіка былі чытаньні квэбэцкімі акторамі (па-французку) вытрымкаў з кнігі С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва". Пасьля чытаньняў адбываліся дыскусіі вакол тэмы Чарнобылю. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, якая брала ўдзел у двух з гэтых дыскусіяў, прысьвяціла свае выступы Беларусі.

27-га красавіка адбыўся на Квэбэцкім унівэрсытэце ў Монтрэалі (UQAM) форум, прысьвечаны гадавіне Чарнобыля. Зноў шмат часу было прысьвечана Беларусі, бо навукоўцы, якія ўдзельнічалі ў круглым стале, былі добра азнаёмленыя з наступствамі гэтай катастрофы ў Беларусі. Спн. І. Сурвілла была адным з гасьцей круглага стала.

Таксама вельмі шмат увагі гадавіне Чарнобылю прысьвяцілі СМІ Канады. І тут зноў публіка мела магчымасьць шмат даведацца пра галоўную ахвяру гэтай катастрофы – нашую Бацькаўшчыну Беларусь.

*Я. ВІШНЕВІЧ*

# Вялікдзень у Антвэрпане

Уначы на 16 красавіка ў антвэрпанскай парафіі Ўваскрасеньня Хрыстовага адбылося ўрачыстае Вялікоднае Набажэнства. Пачалося яно Крыжовай працэсіяй на вонкі царквы, дзе па старадаўняй традыцыі і абвяшчаецца радасная вестка "Хрыстос уваскрос!". Людзі ў поцемках, што сымбалізавалі "цемру і цень сьмяротную" дахрысьціянскага часу, выйшлі да галоўных дзьвярэй сьвятыні й пад сьпевы гімну "Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцю сьмерць зваяваў і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў" увайшлі ў ярка асьветленую сьвятыню, каб сустрэць Уваскрослага Хрыста на ўсяночным чуваньні.



Нягледзячы на стому ад перадсьвяточнай працы, людзі радаваліся і адчувалі сябе бадзёрымі і духова ўзрушанымі. Пасьля Набажэнства былі асьвечаныя пасхальныя булкі, фарбаваныя яйкі ды іншыя стравы, а затым адбыўся сумесны вялікодны сьняданак, што завяршыў двухмесячны Вялікі Пост і Тыдзень Пакутаў Госпада і распачаў сьвяткаваньні Пасхі Хрыстовае.

*Ігар ЛАЗАРЧУК*

# "Милости просим"

Угорадзе Бірмінгэме, Англія, 15 красавіка сёлета ў памешканьні брытанскай вэтэранскай арганізацыі British Legion адбылося прыняцьцё для дзяцей, якія прыехалі з Асіповіцкага раёну Магілёўскай вобласьці. Вялікі пакой быў застаўлены сталамі зь ядою і шматлікімі падарункамі для дзяцей. Для іх-жа была прыгатаваная дыскатэка.

Робяць такія прыняцьці для дзяцей ужо 13 гадоў запар. Што мяне ўразіла найбольш, гэта вялізны надпіс па-расейску на сьцяне «Милости просим». Інфармацыя пра дзяцей і пра Чарнобыльскую аварыю была напісаная па-ангельску, і просьба аб дапамозе магла-б быць напісаная і самым Лукашэнкам. Бо былі там выказваньні падобныя да ягоных пра "брацкі рускі народ" ды Ф. Скарыну, які жыў у Піцеры. Пра дзяцей напісана, што Чарнобыльская аварыя здарылася на "рускай тэрыторыі Беларусі", што "рускія дзеці" прыяжджаюць рэгулярна ў Англію на адпачынак з "рускага гораду Менску".

Гэтым разам прыехала 12 дзяўчынак і 2 хлопчыкі, усе ў веку ад 7 да 10 гадоў. Іх па двох разьмясьцілі жыць у ангельскія сем'і. Нашая суседка забрала да сябе двое дзяўчатак. Была загадзя пададзеная інфармацыю пра самых дзяцей і іхных бацькоў. Адная дзяўчынка была зь няпоўнай сям'і, а другая з сям'і, дзе бацька служыць вайскоўцам. Усе дзеці былі дагледжанымі й прыстойна апранутымі, і не выглядалі патрабуючымі дапамогі.

Зь дзецьмі прыехала толькі перакладчыца, бо на прыезд настаўніцы ангельцы не пагадзіліся. Гэтая маладая жанчына гаварыла да мяне на чыстай беларускай мове, але зь дзецьмі размаўляла выключна па-расейску. Дзеці паміж сабою ўжывалі таксама толькі расейскую мову. Я зьвярнуў увагу перакладчыцы на недакладнасьці, якія былі ў інфармацыі пра дзяцей, і яна са мною пагадзілася. Адносна прыезду дзіцяці зь сям'і вайскоўца, яна адказала, што бацька дзяўчынкі ёсьць толькі прапаршчыкам. Агулам выказалася, што Лукашэнка добры прэзыдэнт, і абраны ён большасьцю народу, і што людзі ў Беларусі жывуць добра.

Незразумела толькі, чаму яны тады міласьці просяць? Жыве Беларусь!

*М. БАЯРОЎСКІ*

# Пікет у Таронта

Сябры Згуртаваньня Беларусаў Канады наладзілі 2 красавіка пікет каля будынку расейскага кансуляту ў Таронта.

Гэтай акцыяй канадыйскія беларусы выступілі супраць падтрымкі расейскімі афіцыйнымі ўладамі вынікаў сфальшаваных выбараў і разгону мірных акцыяў пратэсту ў Менску, а таксама супраць удзелу Расеі ў «вялікай васьмёрцы» як краіны, якая падтрымлівае дыктатуру. Удзельнікі пікету падрыхтавалі стэнды з фатаздымкамі зьбіцьця людзей ў Менску і распаўсюдзілі інфармацыйныя ўлёткі пра апошнія падзеі ў Беларусі. У консулят была даслана адмысловая заява.




На акцыі прысутнічалі таксама карэспандэнты канадыйскіх газэтаў.

*Дз. Эльяшэвіч*

# Пра арышты ў Беларусі

Арышт і асуджэньне лідэраў беларускай апазыцыі А. Мілінкевіча, В. Вячоркі, С. Калякіна і А. Бухвостава выклікала рэзка нэгатыўную рэакцыю ў сьвеце.

Дзяржсакратар ЗША Кандаліза Райс асудзіла "ганебны" арышт і асуджэньне А. Мілінкевіча. Яна заклікала беларускія ўлады ставіцца да палітычнай апазыцыі ў адпаведнасьці з міжнароднымі прынцыпамі.

Генэральны сакратар НАТО Яп дэ Гоп Схефэр заявіў, што арышт Мілінкевіча зьяўляецца "непрымальным". "Я заклікаю рэжым у Менску неадкладна яго вызваліць. Эўраатлянтычная супольнасьць не можа гэта прыняць", – заявіў ён.

Эўразьвяз, які нядаўна ўхваліў візавыя санкцыі супраць А. Лукашэнкі і вышэйшых чыноўнікаў, выступіў з пагрозай новых захадаў супраць беларускага рэжыму. Прадстаўнік Эўракамісіі Эма Удвін жорстка асудзілі любыя арышты паводле палітычных матываў.

Пра магчымыя новыя санкцыі заявілі ў ЗША. Прэссакратар Дзярждэпартаменту Адам Эрэлі зазначыў, што вывучаючца магчымасьці дадатковага ціску на вінаватых за неправавыя дзеяньні ў Беларусі.

Міністар замежных справаў Канады Пітэр Мак-Кэй таксама заклікаў беларускія ўлады неадкладна вызваліць А. Мілінкевіча: "Канада асуджае арышт і зьняволеньне сп. Мілінкевіча толькі за тое, што ён скарыстаўся дэмакратычным правам на мірную дэманстрацыю. Гэта чарговы прыклад таго, як беларускі рэжым забараняе свабоду...", – заявіў Пітэр Мак-Кэй ад свайго імя і ад імя прэм'ер-міністра Канады.

Інфармагенцтвы нагадваюць, што раней Атава адмовіла ў пасадцы на дазапраўку самалёта беларускага прэм'ера Сяргея Сідорскага і абмежавала афіцыйныя адносіны зь Менскам.

Міністар замежных справаў Бэльгіі Карэл дэ Гухт, які зьяўляецца дзейным старшынём АБСЭ, заклікаў да неадкладнага вызваленьня Мілінкевіча і ягоных прыхільнікаў.

Міністар замежных справаў Нямеччыны Франк-Вальтэр Штайнмаер назваў дзеяньні беларускіх уладаў "спробаю запалохаць і прымусіць замаўчаць апазыцыю, што аддаляе беларускія ўлады ня толькі ад эўрапейскіх каштоўнасьцяў, але і ад уласных грамадзянаў".

Дзеяньні беларускіх уладаў таксама асудзілі ў Летуве, Польшчы і іншых краінах сьвету.

*Паводле Радыё Свабода*

# Беларусь за месяц

## 1 траўня ў Менску

У сталіцы прайшла акцыя апазыцыі. Спачатку плянавалася, што яна будзе скіраваная супраць кантрактнай сыстэмы ў Беларусі. Аднак арышты лідэраў дэмакратычнага руху на наступны пасьля Чарнобыльскага шляху дзень унесьлі карэктывы ў фармат мерапрыемства.

А 11-й гадзіне ля будынку прэзыдыюму Акадэміі навук сабраліся дзьве сотні чалавек. На ганак галоўнай навуковай установы краіны прыйшлі: Анатоль Лябедзька, Аляксандар Дабравольскі, Станіслаў Шушкевіч, жонка Аляксандра Мілінкевіча Іна Кулей. Праўда, міліцыя ўсіх іх хуценька папярэдзіла пра магчымую адказнасьць за арганізацыю акцыі. Праз паўгадзіны людзі калёнай па ходніках вуліцы Сурганава рушылі да Плошчы Бангалёр, у Парк Дружбы Народаў, дзе былі заплянаваны мітынг і чакалі сябры Партыі камуністаў Беларусі (калякінцы).

На мітынгу намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандар Дабравольскі прапанаваў стварыць рух "Для Свабоды", дабіваючыся вызваленьня з турмаў і сьледчых ізалятараў усіх палітвязьняў. Грамадзяне, у сваю чаргу, запісваліся ў новы рух — "За свабоду".

Пры канцы мітынгу, паводле паведамленьня Радыё "Свабода", міліцыя ўручыла позву першаму кіраўніку незалежнай Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу. Ня выключана, што і яго пакараюць арыштам.



*Сьвятар БАПНЦ Л. Акаловіч і С. Шушкевіч.*



*Чарнобыльскі Шлях-2006 у Менску.*



*Флаш-моб у падтрымку "Нашай Нівы".*

Невялікая колькасьць удзельнікаў шэсьця і мітынгу (каля 1 тыс.) тлумачыцца проста. У Беларусі дні з 29 красавіка па 2 траўня былі непрацоўнымі, і многія патэнцыйныя ўдзельнікі акцыі знаходзіліся на лецішчах ці ў бацькоўскіх вёсках.

## Чарнобыльскі шлях-2006

Сёлета, паводле розных ацэнак, у Чарнобыльскім шляху ў Менску ўзялі ўдзел ад 7 да 12 тыс. чалавек. Праўда, рупар рэжыму тэлеканал ОНТ наогул даў лічбу ў 300 чалавек.

Аднак галоўны пралік арганізатараў акцыі быў у тым, што яны так канчаткова і ня вызначыліся, дзе будуць адзначацца ўгодкі катастрофы. Калі й вызначыліся, то паспалітаму народу пра гэта не сказалі.

25 сакавіка падчас сьвяткаваньня Дня волі было заяўлена, што акцыя пачнецца на Кастрычніцкай плошчы сталіцы. Менавіта гэтае месца фігуравала ў заяўцы, пададзенай у гарвыканкам. Аднак кіраўніцтва Менску просьбу не задаволіла, адправіўшы заяўнікоў да Акадэміі навук з наступным шэсьцем па вуліцы Сурганава да плошчы Бангалёр. Заяўнікі нібыта пагадзіліся з рашэньнем гарвыканкаму. Прынамсі, словы пра іх згоду масава растыражавалі незалежныя СМІ. Праўда, потым людзей заклікалі прыйсьці менавіта на Кастрычніцкую плошчу. У выніку частка людзей прыйшла да плошчы, другая — сабралася на ганку прэзыдыюму Акадэміі навук.

Вось хто добра падрыхтаваўся да акцыі, то гэта праваахоўныя органы. Ад 17-й гадзіны станцыі мэтро "Кастрычніцкая" і "Купалаўская" былі зачыненыя, цягнікі на іх не спыняліся. Падыходы да плошчы былі перакрытыя кардонамі міліцыі, а выхады на праспэкт Скарыны ля Кастрычніцкай плошчы агароджаныя мэталічнымі турнікетамі.

У адказ грамадзяне сабраліся ля ўнівэрсаму "Цэнтральны", Макдональдсу, Нацбанку, цырку. Пасьля таго як калёна злучылася, дэманстранты пад бел-чырвона-белымі сьцягамі на чале з Аляксандрам Мілінкевічам, Вінцуком Вячоркам, Сяргеем Калякіным рушылі ў бок Акадэміі навук, на злучэньне з другой часткай. На працягу ўсяго шляху міліцыянты праз мэгафоны неаднаразова папярэджвалі пра тое, што шэсьце несанкцыянаванае і яго ўдзельнікі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасьці.

Абедзьве калёны дэманстрантаў злучыліся ля сьценаў Акадэміі навук пасьля 7-й вечара. На мітынгу выступілі Аляксандар Мілінкевіч, намесьнік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Анатоль Ляўковіч, лідэр Партыі БНФ Вінцук Вячорка, Партыі камуністаў Сяргей Калякін ды іншыя.

Усе выступоўцы казалі як пра Чарнобыль фізычны (трагедыю дваццацігадовай даўніны), так і пра Чарнобыль палітычны, які пачаўся з прыходам да ўлады Лукашэнкі. Лідэр аб'яднанай апазыцыі Аляксандар Мілінкевіч чарговы раз згадаў мінулыя прэзыдэнцкія выбары: "Гэта (былі) псэўдавыбары. Але мы пайшлі на іх, каб абудзіць людзей, каб сказаць праўду, пазбавіцца ад страху. (...). Мы многіх пераканалі, што 30% людзей ужо з намі. І калі мы будзем разам у руху "За свабоду!", заўтра будзе 40%, а пасьлязаўтра — больш за палову. (...) І тады мы пераможам".

Сацыял-дэмакрат Анатоль Ляўковіч нагадаў пра тое, што ў жодзінскім сьледчым ізалятары роўна месяц утрымліваецца іншы экс-кандыдат на пасаду прэзыдэнта Аляксандар Казулін (у ягоную абарону сабралі больш за 10 тыс. подпісаў — "Беларус"). Потым удзельнікі акцыі прайшлі вуліцай Сурганава да чарнобыльскай капліцы на плошчы Бангалёр.

"Чарнобыльскі шлях", калі не лічыць дзясятка затрыманых, а таксама выкраданьня лідэра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі (яго затрымалі невядомыя, зьбілі, а потым адвезьлі ў КДБ) і затрыманьня позна ўвечары Вінцука Вячоркі, скончыўся досыць ціхамірна. Магчыма, гэтаму паспрыялі і самыя людзі, што ад Бангалёру разыходзіліся, каб унікнуць арышту, вялікімі групамі ці прысутнасьць грамадзянаў замежных дзяржаў.

"Расплата" прыйшла на наступны дзень. Раніцай былі затрыманыя Аляксандар Бухвостаў і Сяргей Калякін, а ў рэдакцыі газэты "Белорусы и рынок" проста падчас інтэрвію Аляксандар Мілінкевіч. Усіх іх 27 красавіка асудзілі на тэрміны ад 14 да 15 сутак "за арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця і ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу". Днём пазьней на 14 сутак быў асуджаны і лідэр "Маладога Фронту" Зьміцер Дашкевіч.

## Хмары над "Наша Нівай"

10 красавіка газэта "Наша Ніва" атрымала ад Менскага гарвыканкаму адказ на просьбу аб узгадненьні юрыдычнага адрасу рэдакцыі. У лісьце, падпісаным намесьнікам старшыні гарвыканкаму Міхаілам Ціцянковым, паведамляецца, што "Менскі гарадзкі выканаўчы камітэт лічыць немэтазгодным размяшчэньне газэты "Наша Ніва" на тэрыторыі г. Менску". Пазбаўленьне юрадрасу можа пацягнуць за сабою праблемы ня толькі з друкам газэты ў Беларусі, але й наогул яе існаваньне на тэрыторыі краіны. Друк па-за межамі Беларусі (Летува, Расея) таксама не найлепшае выйсьце з сытуацыі. У міліцыі заўсёды знойдзецца прычына затрымаць наклад на мяжы.

У апошнім нумары (316, 28 красавіка 2006) рэдакцыя зьвярнулася да чытачоў, каб тыя, хто мае магчымасьць чытаць газэту ў Інтэрнэце, паведамілі пра гэта рэдакцыі. Ня выключана, што неўзабаве праз складанасьці з друкам выданьне будзе дасылацца толькі "безінтэрнэтным" падпісчыкам.

28 красавіка на Кастрычніцкай плошчы ў Менску адбыўся флэш-моб у падтрымку газэты. Каля 300 чалавек прыйшлі на Плошчу, разгарнулі газэту і пачалі дэманстратыўна чытаць. Потым яны моўчкі прайшлі з газэтай у руках да Плошчы Перамогі. Людзі "ў чорным" па сканчэньні акцыі затрымалі каля дзясятка чалавек.

У падтрымку "Нашай Нівы" таксама выступіла нават дэпутат Палаты прадстаўнікоў Вольга Абрамава, якая заявіла, што "Наша Ніва" — гэта высокапрафэсійнае, незалежнае выданьне, брэнд. І няхай гэты брэнд, якому неўзабаве будзе 100 гадоў (23 лістапада 2006 году), жыве і квітнее". Спн. Абрамава накіравала дэпутацкія запыты на імя міністра інфармацыі Уладзімера Русакевіча, віцэ-старшыні гарвыканкаму Міхаіла Ціцянкова і начальніка галоўнага ідэалягічнага ўпраўленьня Адміністрацыі прэзыдэнта Алега Праляскоўскага.

## Касьпяровіча і Марыніча вызвалілі

28 красавіка выйшаў на волю Зьміцер Касьпяровіч, актывіст моладзёвага апазыцыйнага руху. Яго разам з паплечнікамі Паўлам Батуевым і Зьмітром Гаўрусікам затрымалі ў ноч з 17 на 18 студзеня ў Менску, ля будынку гарвыканкаму. Маладых людзей абвінавацілі ў тым, што яны сарвалі з гмаху гарвыканкаму чырвона-зялёны сьцяг. Усім далі суткі арышту, а потым Касьпяровіча зьмясьцілі ў Жодзінскі сьледчы ізалятар, абвінаваціўшы ў злосным хуліганстве. У сакавіку З. Касьпяровіч быў асуджаны на пяць месяцаў — мінімальны тэрмін паводле артыкулу 339, ч. 1. З улікам таго, што больш за палову тэрміну Касьпяровіч правёў у сьледчым ізалятары, яго пастанавілі вызваліць датэрмінова-умоўна.

Двума тыднямі раней, 12 красавіка, суд Цэнтральнага раёну Менску ў часе выязнога паседжаньня ў менскай папраўчай калёніі прыняў рашэньне аб умоўна-датэрміновым вызваленьні экс-міністра і былога амбасадара ў Латвіі Міхаіла Марыніча. Палітык, які перанёс у турме інсульт і захворваньне вачэй, выйшаў на волю 14 красавіка.

Як пісаў "Беларус", Міхаіл Марыніч быў асуджаны ў канцы сьнежня 2004 году на 3,5 гады пазбаўленьня волі "за крадзёж кампутараў і аргтэхнікі". Палітык вінаватым тады сябе не прызнаў, а міжнародныя праваахоўныя арганізацыі назвалі яго палітычным вязьнем.

## Фінькевічу пагражае 12 гадоў турмы

Актывіст незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" Артур Фінькевіч быў затрыманы ў ноч на 1 лютага, калі пісаў на плоце словы "Мы хочам новага (прэзыдэнта)". Спачатку хлопца зьвінавацілі ў злосным хуліганстве (арт. 339), зьмясьцілі ў сьледчы ізалятар, а потым выставілі яшчэ адно, але больш цяжкае абвінавачаньне (наўмыснае зьнішчэньне або пашкоджаньне маёмасьці, арт. 218). Камунальныя службы Менску "налічылі" шкоды на 17 тыс. даляраў, і цяпер хлопцу пагражае зьняволеньне на тэрмін ад 7 да 12 гадоў. Сябры і паплечнікі Артура кажуць, што такім тэрмінам адмыслова палохаюць хлопца. Праваабаронца з цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч у інтэрвію Радыё "Свабода" выказаў думку, што Фінькевічу, магчыма, хочуць прыпісаць дзясяткі "графіці", да якіх ён мог і ня мець дачыненьня, а што "наконт такой сумы — 17 тысяч даляраў — гэта дзіўна. На гэтыя грошы можна палову Менска адрамантаваць. Тым больш гэта вельмі цынічна выглядае на тле мільёнаў даляраў, якія скрала тая-ж Жураўкова і навет не адбыла тэрміну, што ёй прысудзіў суд".

Зазначым, што ўсё гэта адбываецца падчас татальныхператрусаў і затрыманьняў кіраўнікоў "Маладога фронту". Некаторым зь іх выстаўлена абвінавачаньне ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі, што таксама пагражае пазбаўленьнем волі тэрмінам да трох гадоў.

Суд над Артурам Фінькевічам меўся распачацца 4 траўня. "Вясна", улічваючы ўсю сур'ёзнасьць абвінавачаньняў, зьвярнулася да грамадзянаў з заклікам распачаць кампанію падтрымкі Артура Фінькевіча.

***Уласны карэспандэнт***

# З жыцьця беларусаў Канады

## "Канадыйцы за Музэй Генацыду"

### Тыдзень памяці ахвяраў генацыду

У Доме Ўраду штату Антарыё ў Таронта, Канада, 28 сакавіка сёлета адбылася чарговая імпрэза ў рамках Тыдню памяці ахвяраў генацыду.

Гэтыя імпрэзы штогод ладзіць арганізацыя "Канадыйцы за Музэй генацыду", у склад якой уваходзяць больш за 40 розных нацыянальных суполак Канады. Мэтаю арганізацыі ёсьць яднаньне ўсіх міралюбных сілаў з тым, каб пакончыць з гвалтам на нашай плянэце, а таксама асьветніцкая праца па вызначэньню сапраўдных і справядлівых – агульных для ўсяго чалавецтва – паглядаў на расізм, дыскрымінацыю й генацыд.

На імпрэзе з расповедам аб генацыдзе беларускай нацыі выступіла пісьменьніца Ірына Варабей, якая ў арганізацыі "Канадыйцы за Музэй генацыду" прадстаўляе Згуртаваньне Беларусаў Канады. Вялікую цікавасьць сярод прысутных выклікаў стэнд з фатаздымкамі "рэвалюцыйнага" тыдня ў Беларусі, які Ірына прынесла з сабою.

*Ірына АКСЁНАВА, сябра ЗБК*

### Выступ Ірыны ВАРАБЕЙ

Добры дзень, ледзі й джэнтльмэны!

Мяне завуць Ірына Варабей. Я – пісьменьніца.

Я канадыйка беларускага паходжаньня.

Мая краіна Беларусь – гэта краіна ў цэнтры Эўропы, еймымі суседзямі ёсьць Польшча, Украіна, Расея, Летува. Памерам яна блізу Англіі, з насельніцтвам 10 мільёнаў чалавек.

Я патрыётка сваёй нацыі – нацыяналістка – бо прысьвяціла талент і творчасьць сваёй нацыянальнай культуры. І таму я вымушаная жыць за мяжой.

Чаму? Проста таму, што ў маёй посткаляніяльнай, пост-савецкай краіне ўсё перавернута з ног на галаву.

Калі расейцы чуюць, як я кажу: "Я – нацыяналістка", яны проста спалохана бягуць ад мяне. Бо ў Савецкім Саюзе слова "нацыяналіст" ставілася ў адзін рад са словамі "фашыст", "бандыт", "тэрарыст". Але адзіным страшэнным злачынствам гэтых людзей было тое, што яны хацелі парушыць "великую, единую, неделимую семью" СССР, усталяваўшы собскую незалежную дзяржаву. І ўжо не бралося пад увагу тое, што гэта **Расея 200 год таму заваявала нашую краіну**, разбурыла яе, акупавала нашыя землі, прыгнятала наш народ.

Да гэтага стагодзьдзямі расейскія цары вялі крывавыя зьнішчальныя войны, каб завалодаць нашым краем. Ненавідзячы нашую адметнасьць, нашую незалежнасьць, яны заяўлялі, што іхнай мэтай ёсьць зьяднаць славянскія народы ў адно так званае "славянское братэрства" пад маскоўскім кіраўніцтвам.

Але ні агульныя культурныя карані, ні агульная праваслаўная вера не спынілі нашых братоў-суседзяў ад разбурэньня дашчэнту нашых гарадоў, рабаўніцтва нашых цэркваў, крадзяжу нашых сьвятыняў, як і ад забойства мільёнаў і мільёнаў нявінных людзей.

Таму што гвалт і генацыд ня маюць нацыянальнасьці. Яны ёсьць толькі мэтаю ў самой сабе. Сутнасьць яе – нішчэньне.

Сутнасьць нацыяў – творчасьць і разьвіцьцё шляхам этнакультуры.

Ці ня ёсьць гэта **самым вытанчаным генацыдам** пасьля ўсяго гэтага? – Усе нашыя нацыянальныя школы, унівэрсытэты, выданьні былі зачыненыя, мова забароненая, і нават забаронены наш гістарычны назоў Літва (Вялікае Княства Літоўскае) – і на ўвесь сьвет абвешчана: "Няма такой краіны. Няма такога народу. Забудзьце пра яго. Ёсьць толькі паўночна-заходнія тэрыторыі Расеі."

Наш народ паўставаў супраць Расеі тры разы на працягу XIX стагодзьдзя. Як можна здагадацца, паўстанцы былі названыя "бандытамі" й "рабаўнікамі", а паўстаньні патопленыя ў крыві.

Падчас Першай сусьветнай вайны Нямеччына й Расея ваявалі паміж сабой, але на нашай зямлі, карыстаючы нашых людзей у якасьці "пушачнага мяса".

У 1917 годзе ў Расеі адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая абвесьціла "права нацыяў на самавызначэньне". Добра. Паводле гэтага права дэлегаты ад беларускага народу сабраліся на Ўсебеларускі сход і ўсталявалі Беларускую Народную Рэспубліку.

І што?

Немцы й расейцы сустрэліся для перамоваў на тэрыторыі Беларусі, не запрасіўшы туды нават прадстаўнікоў ураду БНР, і падпісалі мірную дамову, падзяліўшы нашую краіну. Савецкая Чырвоная Армія зноў акупавала ўсходнюю частку Беларусі, пазабівала ўдзельнікаў Сходу і сябраў Рады БНР. Тыя, хто пазьбеглі рэпрэсіяў, эміґравалі і захавалі Раду БНР, якая існуе да гэтае пары на выгнаньні.

Замест Беларускай Народнай Рэспублікі была ўсталяваная БССР, залежная ад СССР, г. зн. Крамля.

Рэвалюцыя 1917 году абвесьціла "свабоду, роўнасьць, братэрства". Добра.

На працягу 1930-х гадоў, былі расстраляныя больш за 220 беларускіх пісьменьнікаў. Тысячы прадстаўнікоў інтэлігенцыі, работнікаў навукі й культуры, былі замардаваныя ў вастрогах і канцэнтрацыйных лягерох.

У чым была іхная віна? Яны працавалі над стварэньнем інстытуцыяў беларускае культуры: унівэрсытэтаў, школаў, сродкаў масавай інфармацыі, распрацоўвалі сучасную тэрміналёгію для навукі й культуры... Яны былі нацыяналістамі. Але "нацыяналіст" – гэта тое самае, што "фашыст" ці "тэрарыст", паводле савецкага вызначэньня. Нават СЛОВА, асьветніцтва, было пагрозьлівым для імпэрыі.

Гэта ня ўсё. Нядаўна былі знойдзеныя месцы масавых пахаваньняў побач зь вялікімі гарадамі ў нашай краіне. Адно зь іх – Курапаты побач зь Менскам. 250 тысяч забітых, расстраляных КГБ на працягу 1930-39 гадоў. Хто ляжыць у тых магілах? Рабочыя й сяляне. У чым іхная віна? Яны проста былі беларусамі й ня выракліся сваёй нацы. Колькі такіх пахаваньняў па ўсёй краіне? Мы яшчэ ня ведаем дакладна.

Другая сусьветная вайна. Зноў Нямеччына з Расеяй ваююць паміж сабой на нашай зямлі, карыстаючы нашых людзей. Масква арганізуе партызанскія атрады. Яны пускаюць пад адхон ваенныя цягнікі й рабуюць тутэйшае насельніцтва для свайго забесьпячэньня. У помсту, нязьдольныя ўправіцца з узброенымі атрадамі, нямецкія фашысты робяць простую рэч: яны называюць сялян "бандытамі" і паляць вёскі. Яны паляць іх РАЗАМ з ЖЫХАРАМІ. Хто гэтыя "бандыты"? Жанчыны, дзеці, старыя.

Амаль 350 беларускіх вёсак былі спаленыя разам з жыхарамі. Тысячы беларускіх вёсак і гарадоў былі зруйнаваны. Сталіца Менск зруйнаваная цалкам.

Беларусы згубілі трациу свайго насельніцтва у гэтай вайне.

І ці ня ёсьць гэта **апошнім і найгоршым аспэктам поўнага генацыду?** – Савецкая імпэрыя выхавала новае пакаленьне – не беларусаў, а так званы "савецкі народ", – што і было еінай мэтай! – якое **нічога ня ведае** з таго, што я тут расказала. Таму што нашыя людзі атрымлівалі савецкую адукацыю, зь якой беларуская гісторыя і культура былі поўнасьцю выключаныя ці перапісаныя. А камуністычная прапаганда актыўна займалася "прамыўкай мазгоў" народу. Гэта вельмі выгодная справа – прамывай мазгі людзям – і яны ня будуць паўставаць.

"Няма такой краіны, няма такога народу". І сьвет нават нічога ня ведае аб нашым існаваньні. Як шмат вы ведалі аб беларусах дагэтуль?

І нават самі беларусы часам ўсьведамляюць сябе не асобнай адметнай нацыяй, а часткай "братняга" расейскага народу.

*Заканчэньне на бачыне 8*

# 25 Сакавіка ў беларускіх асяродках

## ЗША Чыкага

У нядзелю, 26 сакавіка 2006 году, у праваслаўнай беларускай царкве Сьв. Юрыя ў Чыкага, як звычайна, адбылася літургія а 10 гадзіне раніцы. Але была яна не зусім звычайна, бо царква была перапоўненая шматлікімі парафіянамі й вернікамі, якія прыйшлі, каб супольна памаліцца і адзначыць вялікае сьвята – Дзень Незалежнасьці Беларусі, Дзень 25 Сакавіка.

Пасьля літургіі настаяцель царквы а. Павал Фалькоўскі адслужыў малебен за беларускі народ. Падчас малебену старшыня парафіяльнай рады сп. Ю. Калейнік і сакратар парафіяльнай рады сп. А. Іванюк ганарова трымалі сьцягі: амэрыканскі зорна-паласаты і адзіны дарагі беларусам бел-чырвона-белы. У канцы малебену сьвятар гучна выгаласіў: "Многая лета беларускаму народу".



Як заўжды хораша сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам маладога, здольнага і працавітага сп. В. Вераб'ёва. Хор скончыў малебен трохразовым "Многае лета".

Пасьля малебену ўся шматлікая грамада перайшла ў царкоўную залю, дзе старшыня парафіяльнай рады прачаў сьвяточную акадэмію. Пачалася яна праслухоўваньнем награнага на тасьме беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Наступным меў слова сп. Ю. Ціпурка. Ён прачытаў короткі, але вельмі зьмястоўны й цікавы рэфэрат на тэму дня, а таксама патлумачыў, чаму наш сьцяг ёсьць бел-чырвона-белы. Свой выступ ён закончыў словамі: "God bless America" і "Жыве Беларусь!".

Закончылася сьвяткаваньне посным, але вельмі смачным абедам, які прыгатавала царкоўнае сястрыцтва. Абед багаславіў а. Фалькоўскі, і, спажыўшы смачныя стравы, пры каве і салодкім, людзі яшчэ доўга не разыходзіліся: размаўлялі, дыскутавалі, спачувалі суродзічам у Беларусі, якія так ахвярна выйшлі на вуліцы Менску і за гэта пацярпелі. Жыве Беларусь!

*Парафіянка*

## Аўстралія Сыднэй

Беларуская сыднэйская грамада сьвяткавала Дзень Дзяржаўнасьці — 88-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, у нядзелю, 2-га сакавіка 2006 году. Урачыстасьць пачалася ў Гоўмбушскай праваслаўнай царкве, дзе а. Ігар Хлябіч адслужыў пасьля літургіі малебен за беларускі народ. Малітвы й Эвангельле вельмі прыгожа гучалі па-беларуску.

З царквы сьвяткаваньне перанесьлі ў Беларускі Культурна-Грамадзкі Клюб у Файрфільд. Урачыстую акадэмію адкрыў кароткім словам Старшыня Клюбу сп. Міхась Лужынскі. Затым перад прысутнымі выступіла др. Слава Лягенчанка, прачытаўшы цікавы й зьмястоўны рэфэрат, што быў сустрэты шчырымі воплескамі прысутных.

Далей слова меў сп. Вячаслаў Эльканові\u010d, які прывёў шмат фактаў пра падзеі вакол прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка ў Беларусі. Усе факты былі ўзятыя з інтэрнэту, у тым ліку пра махінацыі, пабоі, арышты й паліцэйскі тэрор. Дакладчык пацьвердзіў, што расейскі прэзыдэнт павіншаваў Лукашэнку зь перамогаю яшчэ да таго, як былі аб'яўленыя вынікі выбараў. Вось колькі нахабства і цынізму набраўся Пуцін разам з сваім аднадумцам.

Сьвяткаваньне ў Сыднэі працягвалася за сьвяточным абедам, заля сабрала больш за чатыры дзясяткі асобаў. Наступная сустрэча Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу прызначаная на другі дзень Вялікадня.

*Міхась ЛУЖЫНСКІ*



# Весткі й Паведамленьні

**ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

**Viestki j Paviedamlenni**

**Belarusan American Association, Inc.**

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: *www.baza-belarus.org* № 5 (484)


# Красавіцкі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв Кірылы Тураўскага ў Брукліне 9 красавіка адбыўся чарговы красавіцкі сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь. Зайка зрабіў аб'явы пра надыходзячы мітынг, прысьвечаны 20-годзьдзю Чарнобыля, і пра справаздачна-выбарчы сход, які адбудзецца 21 траўня.

Затым перад прысутнымі выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён прааналізаваў прэзыдэнцкія выбары й падзеі “”гарачага сакавіка” 2006 году ў Беларусі ды палітычную сытуацыю, якая склалася пасьля гэтых падзеяў.

Як вядома, сам сп. Зянон Пазьняк быў кандыдатам у прэзыдэнты, зарэгістраваным перад выбарамі. Аднак дзеля беспрэцэндэнтных рэпрэсіяў і ўціску з боку рэжыму была неабходная зьмена тактыкі — рэжым не пакінуў нават самага мізэрнага шанцу на магчымасьць сапраўды вольных і справядлівых выбараў. Адказам рэжыму магло быць народнае галасаваньне – тэхналёгія, якая эфэктыўна магла-б знішчыць пляны рэжыму. Пры ўжываньні працэдуры народнага галасаваньня, для якога былі створаныя народныя грамадзкія камісіі, і падтрымцы ўсіх дэмакратычных сілаў, што выступаюць супраць рэжыму, хрыбет дыктатуры маглі-б зламаць, і ўладу пераняў-бы нацыянальны часовы ўрад. Аднак амбіцыі ды руўжовыя спадзяваньні, а можа і прагматычныя падлікі, узялі верх. І ў выніку, сёньня Беларусь мае сфальшаваныя выбары, суцэльнае ашуканства з боку ўлады і працяг дыктатуры яшчэ невядома на колькі год. Выглядае, што апазыцыйныя дзеячы не былі гатовыя да сур'ёзных дзеяньняў і не скарысталі нават той пад'ём і ахвярнасьць беларускай моладзі, якая пра сваёй уласнай ініцыятыве стварыла намётавы гарадок на галоўнай плошчы ў Менску і мужна абараняла яго амаль пяць дзён. Плошча ў тыя дні атрымала ў народзе новы назоў — пляц Каліноўскага. Але не падтрыманы арганізаванымі дзеяньнямі апазыцыі ахвярны чын моладзі ня меў належнага працягу.

Падзеі 19-25 сакавіка 2006 году назаўсёды застануцца ў беларускай гісторыі. Аднак застануцца ў ёй і тыя змарнаваныя шанцы, што так бяздарна і ганебна былі ўпушчаныя беларускай апазыцыяй.

Што-ж рабіць далей? Цяпер ні ў кага ня можа быць сумніву, што на першы плян павінны выйсьці адукаваньне ды інфармаваньне людзей. Веды пра свой народ, пра сваю мінуўшчыну заўсёды, ва ўсіх народаў і ва ўсе часы, былі самай моцнай зброяй нацы. Таму ня трэба выкоўваць гэтую зброю, а толькі эфэктыўна ўжываць яе. Яна будзе падставаю ўзмацненьня салідарнасьці, якая як ніколі патрэбная сёньня нацыянальным вызвольным сілам Беларусі.

Затым прагучэлі паведамленьні й аб'явы.

Моладзь засталася на яшчэ адзін сход, на якім быў абмеркаваны й прыняты Статут маладзёвай арганізацыі. На 21 траўня прызначаны сход маладзёвай арганізацыі, на якім адбудуцца выбары яе караўніцтва і рэгістрацыя сяброў.

*Яўген МАРОЗ*

# КУПАЛЬЛЕ

**Дарагія сябры! Давайце разам адзначым нашую прыгожую традыцыю Купальля.**

**Калі:** 23-25 чэрвеня 2006 году (Купальская ноч у суботу 24 чэрвеня).

**Дзе:** Рэзэрвацыя ***Ward Pound Ridge*** ў ***Cross River, NY***.

**Транспарт:** цягнікам са станцыі ***Grand Central*** да прыпынку ***Katonah***. Гэта прыкладна гадзіна язды цягнікам ад Мангэтану на ***Metro North, Harlem Line***.

**Кошт:** **$25** дарослым, **$10** дзецям меншым за 12 гадоў.

Чэкі выпісвайце на ***Mr. & Mrs. Ryzy*** з адзнакаю “***Купальле***”. Калі ласка, шліце вашыя замовы разам з формаю, надрукаванаю ніжэй на адрас:

***Piotr & Lena Ryzy***
***20 Old Locust Avenue***
***Cortlandt Manor, NY 10567***

**Кантакты:** **Пётра** і **Алена РЫЖЫЯ**, хатні тэл. **(914) 734 - 8115**, маб. **(914) 522 - 0742**, электронная пошта: ***LenaBelarus@aol.com***

**Што будзе:** купальскія песьні й танцы на працягу ўсёй ночы, спартовыя спаборніцтвы й гульні, гатаваньне страваў (прыносьце ежу, грылі там будуць).

Захапіце з сабою спальныя мяшкі, намёты, ежу, напоі й г. д., а таксама дастатковa фотастужкі, каб хапіла на ўсе дні адпачынку.

Арганізатары забясьпечаць пітную воду і паліва для вогнішчаў і грыляў.

**Вашае імя:** ______________________

**Лік дарослых ($25 за кожнага):** _____, **дзяцей ($10):** ______ **Усяго дасылаю: $** _____

**Ваш тэлефон:** ______________ **E-mail адрас:** ______________

**Ваш паштовы адрас:** ______________________

**Ці трэба Вас забіраць з прыпынку цягніка?** ______ **Калі?** ______________

**Ці хочаце, каб Вам даслалі поштаю мапу з інструкцыяй, як даехаць да парку?** ______

# АБ'ЯВА

***Беларуская маладзёвая арганізацыя*** і ***О.Р. Культурна-адукацыйная фундацыя*** запрашаюць 4-га чэрвеня 2006 году апаўдні ў Грамадзка-рэлігійны цэнтар на ***401 Atlantic Ave*** ў Брукліне на сэмінар, прысьвечаны

## Ларысе ГЕНІЮШ

У праграме:
- Вітаўт Кіпель - жыцьцёвая атмасфэра першай паловы XX-га стагодзьдзя;
- Каця Рэзьнiка-Трыгубовiч - дзейнасьць і творчасьць Ларысы Геніюш;
- прэзэнтацыя музычнага кампакт-дыску на вершы Ларысы Геніюш;
- чытаньне вершаў, дыскусія.

# Увага! Наступны справаздачна-выбарчы сход

ньюёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца **21 траўня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага па адрасу: ***401 Atlantic Ave*** ў Брукліне. Будуць заслуханыя справаздачы старой управы і абраная новая на наступны год. Пачатак апаўдні.

Просьба ўсім сябрам аддзелу прыняць удзел.

Парафіяльная рада і сястрыцтва Сабору Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне запрашаюць Вас на **Банкет і Баль** з нагоды Дня Маці ў суботу 13 траўня 2006 году. Пачатак а 8-й гадзіне вечара. Будзе граць аркестра сям'і Казакоў. Вечаровыя строі пажаданыя. Кошт квіткоў, купленых загадзя $50, пры ўваходзе $60. Купляйце квіткі загадзя ў суботы ці нядзелі ў царкве. Ці дасылайце чэк на кошт квіткоў поштаю на адрас: ***St.Cyril`s of Turau Cathedral, 401 Atlantic Ave, Brooklyn, NY 11217***

## Угодкі Чарнобыля ў ААН

***Заканчэньне на бач. 8***

дакумэнтальнага фільму “Чарнобыльскі крыж”. Расейскамоўны фільм (які можна было таксама пачуць па-ангельску са слухавак) паказавае, наколькі прыхаванай і злачынна хлусьлівай была першымі гадамі інфармацыя пра запраўдные здарэньне на Чарнобыльскай электрастанцыі ды наколькі цёмнымі былі і кіраўнікі, і людзі, што апынуліся перад ядзернай катастрофай дваццаць гадоў таму.

***(Я. З.)***

## Нашая фанатэка

# «ПАРТЫЗАНСКАЯ ШКОЛА»:
## сапраўдная рэформа адукацыі пачынаецца з нас!




Да такіх знаных прыкладаў музычнага нонканфармізму лукашэнкаўскай эпохі, як відэа-фільм "Незвычайны канцэрт" ці дыск "Бумэранг", дадаўся яшчэ адзін артэфакт – альбом супольнага музычнага праекту "Партызанская школа". І калі першыя два з названых праектаў – з амаль непазнавальнымі выходнымі дадзенымі – былі прысьвечаныя палітычным падзеям: адпаведна "інтэграцыйным працэсам Беларусі й Расеі" і "чорным сьпісам" для беларускамоўных рок-камандаў, то дыск праекту "Партызанская школа" навучэнцаў Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа — гэта музычная абалонка таго чыну, які трымаюць ліцэісты, выпускнікі і выкладчыкі гэтай навучальнай установы супраць растаптаньня іх законнага права навучацца на роднай мове ў сваёй краіне. Дыск ёсьць своеасаблівым пасылам да людзей добрай волі спрыяць таму, каб краіна як мага хучэй пазбавілася інтэлектуальнага валюнтарызму, які навязваецца ва ўсіх сфэрах духоўнага жыцьця краіны. У тым ліку і ў сфэры адукацыі.

Думаю, што ня будзе перабольшваньнем зазначыць, што пра гераічнае змаганьне беларускіх ліцэістаў за права вучыцца па-беларуску зь любімымі настаўнікамі, вядома далёка за межамі краіны. Гэта стала вынікам акцыяў салідарнасьці з навучэнцамі ліцэю па ўсёй Эўропе. Як-бы не стараліся чыноўнікі зь сёньняшняга міністэрства адукацыі задушыць Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, гэтая задума знаходзіць не па ўзросту мужны іварты адпор сярод ліцэістаў, а таксама іх бацькоў і настаўнікаў. Але дамагацца навучаньня па-беларуску ў сваёй роднай краіне не адзіная мэта ў навучэнцаў змагарнага ліцэю. Свой боль за лёс мовы, за зьмест цяперашняй адукацыі ў беларускай школе яны хочуць данесьці да як мага большай колькасьці сваіх равесьнікаў. Таму і ўзьнікла ідэя праекту "Партызанская школа", у рамках якой у 2003 годзе ўжо выходзіў альбом "Я люблю ліцэй". Нажаль, ён быў выдадзены абмежаваным накладам і маладыя музыкі-ліцэісты вырашылі стварыць нешта больш вартаснае ў музычным пляне. Тым ня меньш, першы дыск праекту "Я люблю ліцэй" меў розгалас сярод слухачоў, у беларускай прэсе, яго прээзэнтацыю забаранялі, як канцэрты зорак беларускага року – гуртоў "NRM", "Нейра Дзюбель", "Zet", "Крамбамбуля"... Быць у гэтым шэрагу для ліцэйскіх музыкаў было вельмі ганарова, і яны вырашылі працягнуць пачатую справу новым дасканалейшым творам.

Перш чым пачаць працу над тэмаю "супольны музычны праект "Партызанская школа" маладыя ліцэісты-музыкі разам з прадусарам Франакам Вячоркам дасканала вывучылі гэтую музычную плынь, якая мае вельмі добрую распрацоўку тут, у Беларусі. Такія значныя працы, як "Народны альбом" ці "Сьвяты вечар" – выразна структурызаваныя, маюць свае музычныя і паэтычныя асаблівасьці. Відавочна, ліцэісты добра засвоілі клясычныя ўзоры, зь якіх яны бралі прыклад, і вырашылі зьдзівіць слухачоў сваімі крэатывам і іхняй дыхтоўнай рэалізацыяй.

Мо таму свой альбом маладыя музыкі распачалі своеасаблівым гімнам беларускага ліцэю – песьняй Міколы Тоўсьціка "Самалёцік-арыгамі". Вельмі эмацыйны твор, карані якога трэба шукаць у творчасьці любімага ўсімі ліцэістамі гурту "NRM" З гэтай тэмай рэзануе і іншы твор удзельнікау супольнага праекту – пратэст-рэп Павала Супаненкі "Не!" З аўтарскіх твораў названага дыску – адзін з найбольш магутных. А яшчэ "Не!" – добры аргумэнт на карысьць таго, што беларускамоўны рэп становіцца адным з магутных чыньнікаў сучаснай моладзёвай контр-культуры.

У сучаснай беларускай рэчаіснасьці традыцыйна побач з пратэстнай тэматыкай заўсёды ідуць гумарыстычныя і сатырычныя творы. І такі погляд дазваляе, як сталым, так і маладым музыкам, не зацыкліваца на злосьці й помстлівасьці, якія разбураюць асобу і вядуць да ксэнафобіі. Таму – няхай жыве гумар! У тым ліку і на дыску "Партызанская школа".

Першай ластаўкай ў гумарыстычнай плыні, што пануе на дыску, стала вясёлая, ці па-сучаснаму кажучы – сьцёбная – песьня выкладчыка ліцэю Андрэя Хадановіча "Дзяўчонка зь Беластоку", выкананая Андрэем у стылі дваровага шансону на мэлёдыю савецкага кампазытара Крылова: "Дзяўчонка зь Беластока, ня будзь такой жэстокай!" – пераканаўчы прыклад выкарыстаньня трасянкі, як мастацкага сродку.

Песьня пра незвычайнага "Зайца-мурлыка" (выканаўца, аўтар музыкі й тэксту Адэля Дубавец) – гэта своеасаблівая казка-прыпавесьць. Але тэма яе дарослая – гэта страх і магчымасьць яго перамагчы, нават для самых ціхмяных і прыціснутых баязьлівасьцю.

Сатырычным апафэозам на дыску прагучала песьня А. Хадановіча "Вожык-патрыёт" на знакамітую мэлёдыю Джона Ленана і Пола Маккартні "Yellow submarine". Няма сэнсу перадаваць яе зьмест і патас. Але заўважу, што ў краіне, дзе цалкам скажоны сэнс слова "патрыёт", гэтая кампазыцыя – своеасаблівая ілюстрацыя таго, як у сучаснай Беларусі перакручваецца сэнс патрыятызму. "Вожык-патрыёт" – таксама, музычны зьлепак таго камічнага эфэкту, які гэты ліпавы "патрыятызм" выклікае ў дэмакратычна і нацыянальна думаючых маладых людзей.

Трэба не забываць, што ліцэісты ня толькі змагары за свае правы, але і простыя маладыя людзі, для якіх каханьне – частка іхняга сёньняшняга жыцьця. Яго нельга кантраляваць ці падпарадкоўваць ідэалягічным ворганам. Таму тэма каханьня вельмі хвалюе аўтараў і выканаўцаў праекту. Лепшыя песьні лірычнага кшталту на дыску – "Восьмы паверх" (аўтарка тэксту і мэлёдыі Адэля Дубавец), "Палітык" (аўтар мэлёдыі і тэксту Ліза Панамарова, выканаўца Юля Чорная), "Сьвята па імені ты", у якой па-юнацку ўзвышана апяваецца "вечнае сьвята мілосьці"...



Да таго-ж, маладыя музыкі "Партызанскай школы" вераць у тое, што яны абавязкова перамогуць, бо "з табой тваё каханьне" (бонус-трэк зь песьняй Вольгі Какшынскай у яе-ж выкананьні). Маладым хочацца ўспрымаць жыцьцё толькі як цуд, і пра гэта яны краналньна сьпяваюць. Я маю на ўвазе кампазыцыю "Дзень сансавеі" на знакамітую мэлёдыю Dennes'a Boon'a. Сапраўдны гімн маладосьці, каханьню і жыцьцёваму аптымізму! Дарэчы, тэкст для гэтай песьні напісаў яшчэ адзін выкладчык ліцэю, былы музыка знакамітага гурту "Камэлот".

Партнёрскія адносіны зь ліцэістамі-ўдзельнікамі праекту маюць і два ўжо вядомыя сталічныя рок-гурты – "Parason" і "СКА!РБ" (гэтыя ска-музыкі выконваюць на дыску вясёлую песеньку "Лета", навеяную ўспамінамі пра цудоўны час канікулаў). Шмат якія музыкі названых гуртоў – былыя выпускнікі гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа. Ім не на словах знаёмыя ўсе акалічнасьці супрастаяньня паміж навучэнцамі і ўсёй сыстэмай адукацыі, у якой месца для роднай мовы становіцца ўсё меньш. Вось з гэтай прычыны музычным прадусарам "Партызанскай школы" стаў былы ліцэіст, а цяпер гітарыст гурту "Parason" Віталь Зыблюк. Менавіта ягонымі высілкамі кардынавалася праца інструмэнталістаў, вакалістаў і гукарэжысёраў з мэтаю, каб дыск стаў своеасаблівай культурніцкай адзнакай гэтага драматычнага пэрыяду ў найноўшай гісторыі Беларусі. Распавядае сам Віталь: "Па-першае, я сам быў ліцэіст, выпускнік. І ад пачатку нараджэньня ідэі музычнага праекту я ўдзельнічаў у ім у якасьці гітарыста. Разам з праектам я ўдзельнічаў у запісе дыску "Веру ў цябе". І цяпер працягваю супрацоўніцтва зь ліцэістамі: разам ствараем песьні, аранжыруем, запісваем. Я выконваю працу музычнага прадусара праекту."

Вялікую працу як цікавы салагітарыст ажыцьцявіў В. Зыблюк у кампазыцыі "Адукацыя", а таксама ў кавэр-вэрсіі "Ваша школа" паводле сусьветна вядомага твору "Another Brick In The Wall" з альбому "The Wall" гурту "Pink Floyd". Цяпер беларускія словы надалі новы, магчыма, больш сучасны сэнс вядомай кампазыцыі:

Нам ня трэба ваша школа!
Не патрэбен ваш кантроль!
Ды сарказм, там дзе быў гумар,
Наш настаўнік – наша боль!

Настаўнік! Нам ужо даволі!
Новыя словы – старыя ролі!
(тэкст А. Карповіча)

Нельга не заўважыць у названых кампазыцыях напружана-эмацыянальны вакал саліста гурту "Parason" Андрэя Карповіча. Адзначаныя творы сьведчаць, што гурт і выконваемы імі psycho-rock – адзін з самых арыгінальных і пэрспэктыўных на беларускай рок-сцэне...

Плянуецца, што гурт "Parason", як партнэрскі калектыў, будзе ўдзельнічаць у гастролях па Польшчы, куды ліцэісты запрошаныя сёлета. Такія канцэрты ў "Партызанскай школы" адбыліся мінулай вясной. І музыкам "Parason'a" вельмі спадабалася гэткая форма выступаў. Бо ліцэйскі праект – гэта сяброўскі калектыў, і ўдзельнікі яго – таленавітыя і энэргічныя маладыя людзі, зь якімі цікава працаваць.

Чыноўнікі Міністэрства адукацыі краіны ўвесь апошні час нешта ўдасканальваюць: то навучальны працэс, то зьмяняюць сыстэму адзнакаў на дзесяцібальную, то ўводзяць тэставаньне... І, здаецца, гэты працэс ня мае супыну, бо ўвесь час атрымліваецца вынік супрацьлеглы запланаванаму імі. Музыкі "Партызанскай школы" сваім праектам нагадваюць: толькі зварот да нацыянальных арыентыраў, да жыватворных крыніц роднай мовы, сапраўднага патрыятызму – ёсьць адзінае выйсьце з адукацыйнага крызісу. Навучэнцы Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя сёньня гэта сьведчаць, у тым ліку і гэтым таленавітым творам!

***Анатоль МЯЛЬГУЙ,***
***музычны аналітык***

# Neuro Dubel у Празе

Вы можаце сабе ўявіць, каб у Празе сабраліся 200 беларусаў і скандавалі "Belarus Uber Alles "? Гэта магчыма, калі прыяжджае Алесь Кулінковіч і ягоны гурт.

З нагоды сьвяткаваньня Дня Волі 25 сакавіка ў сталіцу Чэхіі быў запрошаны знакаміты гурт "Neuro Dubel". Канцэрт адбыўся ў клюбе "Klub Mlejn". Пачатак быў крышачку змазаны, паколькі чэскі гурт "К666", які павінен быў выступіць спачатку і пазычыць сваю апаратуру музыкам з "Neura Dubel", спазьніўся амаль на 2 гадзіны. Народ чакаў, ужываючы моцныя і не зусім моцныя напоі. Калі пачаўся канцэрт, люд быў ужо "разагрэты".

Першую частку выступу, адведзеную гурту "К666", заля адзначыла ўдзячнымі воплескамі.

**Zakázaná v Bělorusku**
**legenda běloruského punku**




Потым на сцэну выйшаў старшыня "Зьвязу Беларусаў Замежжа" Аўген Сідорык і павіншаваў усіх са сьвятам 25 Сакавіка. Ад арганізатараў вечарыны выступілі Сяргей Скарулліс, Андрэй Рамашэўскі і Віталь Цімошчанка, які з гучнай падтрымкаю залі выклікаў на сцэну беларускі гурт .

Пасьля 2-х гадзіннага канцэрту Алесь Кулінковіч адзначыў, што гэта быў найлепшы за апошні час выступ. Кіраўнік застаўся цалкам задаволены. Заля проста шалела і ў адзін голас гукала "Супер! Крута!"

Скончыўся канцэрт крыкамі "Яшчэ, яшчэ". Спадзяемся, што працяг будзе.

# Вера БАРТУЛЬ (22.11.1930 - 24.04.2006)



24 красавіка 2006 году адыйшла ў лепшы сьвет вядомая дзячка Беларускай эміграцыі Вера Бартуль, дачка Аляксандра й Тацьцяны Касьцюкевічаў, якая нарадзілася 22 лістапада 1930 году ў вёсцы Губічы, што на Гомельшчыне. Паводле веравызнаньня – уніятка.

Вучылася ў агульнаадукацыйных школах у Губічах і Гомелі, а таксама ў гімназіі пры Беларускім лягеры для перамешчаных асобаў у Ватэнштэце (Нямеччына), дзе брала актыўны ўдзел у Беларускім скаўцкім руху, танцавальным гуртку й хоры.

У 1947 годзе разам з бацькам пераехала ў Вялікую Брытанію. Працавала ў мястэчку Маркет Базворт (Market Bosworth) у аддзеле для дзяцей-сіротаў пры доме-лякарні для старых.

Потым нейкі час вучылася на мэдсястру ў месьце Кэтэрын (Kettering).

У 1949* годзе ў Лёндане ўзяла шлюб зь вядомым дзеячам Беларускай эміграцыі Франьцішам Бартулём. Тады-ж, скончыла швачныя курсы і працавала на аднэй зь лёнданскіх швачных фабрыкаў.

Пад час побыту ў сталіцы Вялікай Брытаніі ў хаце Бартулёў (Hornsey Lane Gardens 26) кватаравала акторка, якая парадзіла Веры Бартуль пайсьці ў школу дэманстрацыі моды, якую яна й закончыла.

Брала актыўны ўдзел у дзейнасьці ЗБВБ (Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі).

Ад пачатку 1957* году – у ЗША.

Працавала ў індустрыі моды як мадэль і консультант-куцюр'е. Свае працы паказвала ў лепшых крамах Нью-Ёрку, Лёс-Анжэлесу, Сан-Францыска, Мінеапалісу, Чыкага і іншых.

У 1959 годзе Вера Бартуль была абраная каралевай прыгажосьці Беларускай эміграцыі.

Шмат гадоў ўваходзіла ў кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і адначасна была старшынём дапамаговай арганізацыі "Whiteruthenian American Relief, Inc." Па гэтай лініі яна зьбірала грошы на дапамогу Беларускім вязьнямцам са сталінскіх лягероў. Сярод тых, каму арганізацыя высылала пачкі былі такія ведамыя асобы як Глеб Багдановіч, Юрка й Лявон Луцкевічы, Анатоль Шантыр, Ларыса Геніюш ды інш. Арганізацыя была зарэгістраваная ў Нью Ёрку і была падсправаздачнай уладам штату.

Апрача гэтага Вера Бартуль зьбірала сродкі на выданьне кружэлак Данчыка, на Беларускі музэй у Гайнаўцы.

У 1976 годзе Вера Бартуль была прызначаная біскупам Чаславам Сіповічам афіцыйнай прадстаўніцай Беларусі на 41-м Міжнародным эўхарыстычным кангрэсе ў Філядэльфіі.

У 1990 годзе, разам з танцавальным гуртом "Васілёк", для якога яна стварыла і, разам зь іншымі, пашыла касьцюмы, упершыню пасьля доўгага перапынку наведала Беларусь, куды пазьней шмат разоў прыяжджала як сябра арганізацыі "Citihope", што займалася дабрачыннай мэдычнай дапамогай пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы.

У 1993 годзе – брала ўдзел у Першым зьезьдзе Згуртаваньня Беларусаў сьвету Бацькаўшчына ў Менску.

Да апошніх дзён жыцьця Вера Бартуль узначальвала кіраўніцтва Нью-Ёркскай суполкі Таварыства Беларускай мовы імя Франьцішка Скарыны, а таксама старшынём Беларуска-Амэрыканскай жаночай арганізацыі – BAWA (Belarusian American Women Association).

28 красавіка Вера Бартуль была пахаваная на Беларускіх могілках у Іст-Брансўіку (Нью Джэрзі) побач з мужам, якога яна перажыла на пяць няпоўных месяцаў.



Раптоўная сьмерць Веры Бартуль сталася моцным ударам для ейных сяброў і аднадумцаў, ды незагойнай ранай для родных: дачкі Ганны з мужам Сержуком і сынамі Сьветавітам ды Славамірам, а таксама сына Антона з жонкай Нікол і дачкой Наэл.**

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

**Даты, пазначаныя зорачкай, у артыкуле на сьмерць Франціша Бартуля ("Беларус" № 516 Студзень 2006 г.) праз аўтарскі недагляд, пададзеныя ня слушна.*

*** Родныя нябожчыцы зьвяртаюцца да ўсіх, хто хацеў-бы ўскласьці кветкі на магілу Веры Бартуль, перасылаць грошы з прыпіскай: "заміж кветак" на выданьне газэты "Беларус".*

# Сэмінар у Калюмбійскім унівэрсытэце

У Нью Ёрку 4 красавіка, у Інстытуце Гарымана пры Калюмбійскім унівэрсытэце прайшоў сэмінар, зладжаны Інстытутам Зальцмана па вывучэньні вайны й міру, разам з Інстытутам Гарымана па вывучэньні Расеі, Эўразіі й Усходняй Эўропы (Калюмбійскі унівэрсітэт). Назва сэмінару, "Беларусь пасьля прэзыдэнцкіх выбараў", адлюстравала цікавасьць у Злучаных Штатах да апошніх падзеяў у Беларусі.

Як было адзначана ў інфармацыйнай прадмове да сэмінару, "нядаўнія выбары ў Беларусі прынесьлі перамогу дзейнаму прэзыдэнту Аляксандру Лукашэнку з 83% галасоў. Аднак выбары гэтыя ня лічацца ані свабоднымі, ані справядлівымі. Дэманстрацыі й пратэсты ў Менску былі падаўленыя праз паліцэйскі ціск і арышты". У сэмінары прыняў удзел шэраг уплывовых навукоўцаў, спэцыялістаў па ўсходне-эўрапейскай праблематыцы. Сярод іх – Маргарыта Бальмасэда, дапамагавая прафэсарка са Школы дыпламатыі й міжнародных адносінаў імя Дж. Ўатгэда, Сэтан Хол унівэрсытэт, і супрацоўніца Украінскага дасьледчага інстытуту пры Гарвардзкім унівэрсытэце. Таксама былі прысутныя Марк фон Хаген, прафэсар гісторыі ў Калюмбійскім унівэрсытэце, прэзыдэнт Міжнароднай асацыяцыі украіназнаўства, і Робэрт Лэгволд — прафэсар аддзяленьня палітычных навукаў з Калюмбійскага унівэрсытэту.

Сярод выступоўцаў быў Аркадзь Чарапанскі—былы беларускі дыплямат высокай рангі (паверааны ў справах Беларусі ў ЗША), стыпэндыят Рэйган-Фасэл Фундацыі, прадусар тыднёвай праграмы "Беларускі Форум" для Расейскай службы "Голасу Амэрыкі".

Чакалася прысутнасьць былога кангрэсмэна (у 1981-2000) Сэма Гэйдэнсана, сябра Камісіі па міжнародных адносінах Кангрэсу ЗША (1995-2000), бацькі якога паходзяць зь Беларусі, аднак ён ня змог прыехаць дзеля іншых абавязкаў.

Абмеркаваўшы ход прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі ды акцый пратэсту пасьля выбараў, прысутныя адзначалі пэўны рост падтрымкі апазыцыі, асабліва сярод моладзі. Ці будзе гэты рост дастатковы для зьмены сытуацыі, пакуль няясна. Былі абмеркаваны расейскі фактар ўнутры Беларусі і ў сытуацыі вакол Беларусі на міжнароднай арэне. На гэтую тэму праф. Лэгволд сказаў наступнае: "Для Расеі ходзіць аб нешта большае, чым датацыя больш чым 10% беларускай эканомікі. Сёнешнія лідэры ў Расеі хацелі-б за любы кошт захаваць той статус-кво, што існаваў да нядаўніх "рэвалюцыяў" на пост-савецкай прасторы. Ці то гуляючы на папулізме, ці шчыра бачачы гэта адзінай пэрспэктывай — расейскія лідэры робяць велізарную памылку. Падтрымка й інвестыцыі ў захаваньне нежыцьцяздольнай сытуацыі, якой акурат ёсьць гэты самы пост-савецкі статус кво, аслабляюць Расею і шкодзяць яе адносінам з суседзямі, як добра паказаў вынік адкрытай падтрымкі пра-расейскага кандыдата на выбарах ва Ўкраіне. "Згубіўшы" Украіну, Расея можа падобным чынам згубіць Беларусь, калі ейная падтрымка Лукашэнкі застанецца гэткай-жа непрыхаванай і безумоўнай." Праф. Бальмасэда адзначала, што Беларусь на 50% залежыць ад Расеі па газе, гэта хіба найвялікшая ступень залежнасьці ў сьвеце. Але Лукашэнка — выдатны перамоўца, і невядома колькі яшчэ пратрывае гэткае становішча. Паралель з Украінай тут не спрацоўвае. Хучэй варта правесьці паралель паміж Беларусьсю й Малдовай, і чакаць ад расейскага Газпрому не захопу маёмасьці ў Беларусі (Белтрансгаз і г. д.), але падвышэньня долі Газпраму, падвышэньня коштаў паліва.

Прысутныя аналізавалі становішча ў шэрагах апазыцыі. Сп. Чарапанскі адзначыў, што ў сакавіцкіх падзеях добра праявілі сябе менавіта маладзёвыя арганізацыі й моладзь, што выступала самастойна. Поруч з ростам актыўнасьці моладзі, назіраецца пэўны крызіс кіраваньня ў апазыцыі. Прамоўца адзначыў, што ведае Казуліна амаль 20 год, і размовы пра тое, што ён — "праект Масквы" ці Лукашэнкі — на ўзроўні плётак. Казулін паказаў і на словах і на справе, што гатовы на сур'ёзныя дзеяньні па заваёве лідэрства. Пасьля арышту Казуліна адзіным лідэрам застаецца А. Мілінкевіч, аднак няясна, ці гэта канчаткова. Так, надаўна А. Лябедзька адкрыта заявіў, што Мілінкевіч быў высунуты толькі як адзіны кандыдат на час прэзыдэнцкіх выбараў, і ягоныя прэтэнзіі на лідэра аб'яднанай апазыцыі неабгрунтаваныя."

Былі прааналізаваныя далейшыя магчымыя шляхі для апазыцыі й для прадстаўнікоў ураду ў арганізацыяў у вольным сьвеце. Адзначалася, што не спрацавала палітыка «канструктыўнай уцягнутасьці», калі з рэжымам да пэўнай ступені падтрымліваліся адносіны, у спадзяваньні на актывізацыю памысных сілаў унутры рэжыму. Націск цяпер трэба ставіць на даўгачасовую пэрспэктыву, на адукаваньне людзей і пашырэньне доступу да аб'ектыўнай інфармацыі.

Удзельнікі сэмінару адказалі на шматлікія пытаньні прысутных, у прыватнасьці прагучала пытаньне пра "найгоршы сцэнар" — ці гэта саюз Пуціна і Лукашэнкі, ці зьвяржэньне Лукашэнкі Пуціным, ці нешта яшчэ. М. Бальмасэда адказала на гэтае пытаньне так: «Найгоршы сцэнар — калі апазыцыя прыйдзе да ўлады раней свайго часу. Вакенца магчымасьцяў для апазыцыі — вельмі вузкае. Калі апазыцыя прыйдзе да ўлады, нядбала стане весьці эканамічную палітыку, згубіць падтрымку і змарнуе шанцы — на яе месца зноў прыйдзе Лукашэнка ці той, хто аб'явіць сябе ягоным пасьлядоўнікам. І гэтым разам панаваньне ідэяў, асацыяваных з Лукашэнкам, можа зацягнуцца.»

**Віталь ЗАЙКА**




**На здымку аўтара: зьлева направа: А. Чарапанскі, М. фон Хаген, М. Бальмасэда, Р. Лэгвольд.**

## Выступ Ірыны ВАРАБЕЙ

***Заканчэньне з бачыны 4***

...Я расказала вам пакутную гісторыю свайго народу. Вельмі коратка.

Я нават не ўзгадалая яшчэ пра Чарнобыльскую катастрофу, 70% наступстваў якой ляглі на беларускія плечы.

Сьвет мусіць ведаць, што нашая нацыя **існуе**, але **крывавіць і паміраe**.

І мы будзем крывавіць, пакуль не пазбавімся нашай апошняй бяды. Найноўшай трагедыяй нашага народу ёсьць урад, якім кіруе прэзыдэнт – маскоўскі стаўленік, "апошні дыктатар Эўропы", які нішчыць беларускую культуру, працягваючы палітыку русыфікацыі маскоўскіх цароў і савецкай імпэрыі, намагаецца зноў зьяднаць нас з Расеяй.

Але сьвет мусіць ведаць, што мы – **нацыя, якая ўваскрашаецца, нацыя, якая змагаецца** за сваю адметнасьць і сваё існаваньне.

Мы хочам, каб увесь сьвет, як і ўвесь наш народ, успомніў, што некалі гэта была вялікая нацыя, адна з самых прагрэсіўных і заможных дзяржаваў Эўропы – Вялікае Княства Літоўскае.

Успомнілі, што гэтая нацыя, якая спыніла Залатую Арду і захіліла Эўропу ад ейнага нашэсьця. Якая ў той-жа час спыніла нашэсьце крыжакоў і захіліла ад іх цэнтральную й усходнюю Эўропу.

Нацыя, якая яшчэ ў 1588 годзе стварыла першы дасканалы звод законаў – фактычна дэмакратычную канстытуцыю – прынцыпам якой сьледовала ўся Эўропа.

Нацыя, якая адной зь першых у Эўропе надрукавала Біблію на роднай мове.

Нацыя, якая дала сьвету й іншым народам мысьляроў і герояў: такіх як герой ЗША генэрал Тадэвуш Касьцюшка (помнік яму стаіць недалёка ад Белага Дому), ці нацыянальны герой Чылі навуковец Ігнат Дамейка.

Гэтак будзе. Таму што сутнасьць нацыяў – творчасьць і разьвіцьцё шляхам этнакультуры і далучэньне сваіх прагрэсіўных крокаў да ўсяго чалавецтва.

**P.S.** Я падрыхтавала гэтую прамову колькі месяцаў таму, яшчэ ня ведаючы, як будуць разьвівацца падзеі ў Беларусі. Нядаўна беларускі дыктатар Лукашэнка зноў падмануў увесь сьвет, сфальсыфікаваў вынікі выбараў, аб'явіўшы сваю "элегантную перамогу". Першай краінай, якая прызнала гэтыя так званыя "выбары" сапраўднымі, стала Расея. З ухваленьня расейскага прэзыдэнта Лукашэнка распачаў жорсткія рэпрэсіі супраць мірных масавых пратэстаў, тых людзей, хто паўстаў супраць гэтай хлусьні. Іх аб'явілі "тэрарыстамі". Гэтыя "тэрарысты" – нашае новае пакаленьне, моладзь, якая ня хоча жыць пад гвалтам. Гэта – цьвет нашае нацыі, якую Лукашэнка зноў брутальна нішчыць.

Я хачу зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што гвалт і генацыд беларускага народу працягваецца і адбываецца літаральна ў гэтыя дні.

І змаганьне беларусаў за свабоду і чалавечыя правы працягваецца там і цяпер.

Дзякуй за ўвагу.

# ПАДПІСКА

**на выданьні зь Беларусі на другую палову 2006 году**

**З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа:**

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | Наша Ніва, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 85 |
| | Наша Слова, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 40 |
| Часапісы: | Arche, прыватны, беларуская | 5 на 6 месяцаў | 50 |
| | Дзеяслоў, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

**Жыхарам Беларусі (сваякам і знаёмым)**

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | Наша Ніва, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 50 |
| | Наша Слова, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | Arche, прыватны, беларуская | 5 на 6 месяцаў | 15 |
| | Дзеяслоў, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 10 |

Вы можаце выпісаць і іншыя выданьні зь Беларусі. Па інфармацыю зьвяртайцеся на адрас: ***hazetabielarus@att.net***

***Заўвага**: газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*

***Падпіска працягваецца да 18 чэрвеня 2006 году.***

*Замовы й аплату своечасова дасылайце ў рэдакцыю на адрас:*

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя **BIELARUS.***

## АБВЕСТКА

У траўні выходзяць з друку ўспаміны Міхася БЕЛЯМУКА "Свайго лёсу не мінеш". Кнігу можна замовіць у аўтара. Кошт $25. Зьвяртайцеся на адрас:

***Michael Bielemuk, 10915 Lake Ave., Cleveland, OH 44102***

## Удакладненьне

У "Беларусе" № 519 па віне рэдакцыі была зробленая памылка ў подпісе да здымка на бачыне 4 ва ўспамінах сп. Антона Маркевіча. Каля ратушы ў Ашаве стаяць: Б. Лішчонак, Г. Харэвіч, Н. Богдан, В. Харэвіч.

Беларуская праваслаўная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, Нью Джэрзі, ветліва запрашае Вас, Вашую сям'ю і Вашых знаёмых на сьвяткаваньне беларускіх традыцыяў. Сёлета Парахіяльны камітэт ладзіць 7-ы

## Беларускі фэстываль - 2006

у **суботу 3-га чэрвеня** 2006 году ў царкоўным парку і залі. Прыходзьце на смачныя стравы. Будуць гучаць беларускія мэлёдыі і прадавацца сувэніры. Фэстываль адбудзецца ня гледзячы на надвор'е - **"Ці сьнег, ці дождж"**. Інфармацыю па тэлефону **(732) 613-7171** у Грамадзкім Цэнтры.

## Абвяржэньне

Нядаўна ў беларускіх ды іншых іфармацыйных крыніцах зьявіліся весткі, у якіх, з намерам шкоды Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ды ейнаму Першагерарху прыпісваюцца факты й падзеі, да якіх яны ня мелі дачыненьня.

З увагі на гэта **Кансысторыя БАПЦ** лічыць патрэбным абвесьціць, што: Першагерарх БАПЦ Я. М. Мітрапаліт Ізяслаў, ніякага прывітаньня сп. Аляксандру Лукашэнку, што ня першы ўжо раз наўсуперак Канстытуцыі захапіў татальную ўладу ў Рэспубліцы Беларусь ды ад пачатку яганага ўрадаваньня забараніў і далей забараняе ў нашай Бацькаўшчыне родную беларускаму народу Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву - пасылаць ня думаў і не пасылаў.

Аўтарства, апублікаванага фальшывага прывітальнага ліста да Лукашэнкі, належыць адыйшоўшым ад Яе "дзеячам" варожае агентуры, аб чым сьведчыць хоць-бы пададзены імі ў лісьце несапраўдны нумар тэлефону Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага (у тым лісьце - "Кірыла" Тураўскага) ды іншыя памылкі.

## Калі выйдзе кніга...

Сёлета ў сакавіковым нумары "Беларуса" спн. Ірына Верабей паведаміла, што "ў хуткім часе плянуецца выдаць раман "Заўтра гэта ўчора" па-беларуску, які ўжо перакладаецца з ангельскай мовы.

Некалі Лукашэнка забараніў перакладаць гэты твор на нашую мову. Прычынай была, яшчэ куды горшая чым цяпер, пагроза яганай уладзе ў Беларусі.

Кніга, паводле таронцкага ўнівэрсытэту, была бэстсэлерам. Даходу яна ні аўтару, ні выдавецтву "Пагоня" не прынесла, але аўтар выдатнай мастацкай ангельскай мовай, якніхто да яго, адкрыў чытачам Канады скамплікаванае жыцьцё нашых выгнаньнікаў, што не пакінулі змаганьня за вызваленьне Беларусі.

Мяркую, што выданьне гэтай кнігі павінна быць добрым адказам цяперашняму дыктатару нашай паняволенай, абрабаванай і зрусыфікаванай дзяржавы.

Заклікаем добрых суродзічаў фінансава дапамагчы нам перавыдаць кнігу "Заўтра гэта ўчора" на беларускай мове.

***Кастусь АКУЛА***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| М. Смаршчок | 200 |
| М. Баяроўскі | 50 |
| Л. Брылеўская | 50 |
| Н. і А. Вакуліч | 50 |
| К. і Я. Вініцкія | 50 |
| М. Касьцюк | 50 |
| У. Сітнік | 50 |
| Ж. Дубяга | 40 |
| М. Аляксандар | 30 |
| А. Андросік | 30 |
| Л. Бакуновіч | 30 |
| П. Драбышэўскі | 30 |
| А. Маркевіч | 30 |
| П. Мірановіч | 30 |
| У. Пэарс-Адашкевіч | 30 |
| Г. Харавец | 30 |

**Да гадавіны зь дня сьмерці Янкі АЗАРКІ:**

| | |
|---|---|
| М. Азарка | 100 |

**Замяж кветак на магілу Веры БАРТУЛЬ:**

| | |
|---|---|
| А. Орса-Романо | 150 |
| І. Шаламіцкі | 100 |
| В. Заморскі | 50 |
| М. і К. Верабей | 25 |

**Замяж кветак на магілы Веры і Францішка БАРТУЛЁЎ:**

| | |
|---|---|
| Сям'я Андрусышын | 100 |

**Замяж кветак на магілу Францішка БАРТУЛЯ:**

| | |
|---|---|
| Праф. Т. Бэрд | 200 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна: *Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*

Падпіска $30 на год. Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by **Belarusan American Ass'n, Inc.**

Subscription $30 yearly

Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.

Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ

Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:

***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

E-mail: ***hazetabielarus@att.net***

Сусьветнае сеціва: ***www.bielarus.org***

ISSN 1054-9455

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.